*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ **22(182)** ◈ 1 чэрвеня 1994 г. ◈ Кошт — 100 рублёў.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



***25 ТРАЎНЯ ПАД СТАРШЫНСТВАМ МЯЧЭСЛАВА ГРЫБА АДБЫЛОСЯ ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫЎМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**, на якім была прынята пастанова «Аб мерах па забеспячэнні своечасовага выканання Закона Рэспублікі Беларусь «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь». У ёй адзначаецца, што з моманту ўступлення Закона ў дзеянне адбыліся пэўныя станоўчыя змяненні ў развіцці беларускай мовы ў якасці дзяржаўнай, а таксама і іншых нацыянальных моў, якімі карыстаецца насельніцтва краіны. Аднак адпаведную работу многіх міністэрстваў, дзяржкамітэтаў і ведамстваў нельга прызнаць здавальняючай. У сувязі з гэтым ураду ў мэтах кантролю за рэалізацыяй Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай і іншых нацыянальных моў у рэспубліцы даручаецца сістэматычна разглядаць на Прэзідыўме Савета Міністраў пытанні выканання дзяржаўнымі органамі заканадаўства аб мовах. Акадэміі навук Беларусі сумесна з міністэрствамі адукацыі, культуры і друку прапанавана да 1 верасня 1994 года стварыць навукова-каардынацыйны савет па пытаннях правядзення дзяржаўнай моўнай палітыкі.*

**НА БЕЛАРУСІ ПРАЙШЛО СВЯТКАВАННЕ ДНЯ СЛАВЯНСКАГА ПІСЬМЕНСТВА.**

**УРАД РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫІ ПРЫНЯЎ РАШЭННЕ** выдзеліць Беларусі міжурадавы крэдыт на першае паўгоддзе 1994 года ў памеры 150 мільярдаў расійскіх рублёў. Невядома толькі, калі грошы паступяць.

***ПАДЧАС СВЯТКАВАННЯ 75-ГОДДЗЯ ВІЛЕНСКАЙ БЕЛАРУСКАЙ ГІМНАЗІІ МІНІСТР ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ БЕЛАРУСІ П. КРАЎЧАНКА ПАВЕДАМІЎ ПРЫСУТНЫМ СЕНСАЦЫЙНУЮ ВЕСТКУ:** «Ёсць чалавек, праваслаўны святар з Германіі, які асабіста бачыў крыж святой Ефрасінні Полацкай і пакляўся на крыжы, што ён не знішчаны». Паболей бы прыемных вестак!*

**БЕЛАРУСЬ З ПЕРШЫМ АФІЦЫЙНЫМ ВІЗІТАМ НАВЕДАЛА ПАРЛАМЕНЦКАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ СЕЙМА ЛАТВІЙСКАЙ РЭСПУБЛІКІ НА ЧАЛЕ СА СТАРШЫНЁЙ КАМІСІІ ПА ЗАМЕЖНЫХ СПРАВАХ А. КІРШТЭЙНСАМ.** Дэлегацыю Латвіі прыняў першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь В. Кузняцоў. быў абмеркаваны шэраг пытанняў, сярод якіх магчымасць выкарыстання Латвіяй беларускіх нафтаперапрацоўчых прадпрыемстваў, атрыманне з рэспублікі калійных угнаенняў. Латвійская дэлегацыя пацвердзіла гатоўнасць латвійскага боку прадаставіць Беларусі права выкарыстоўваць марскія порты і тэрміналы Латвіі. У перспектыве рэальнасцю можа стаць будаўніцтва нафтавага калектара, які звяжа Балтыйскі рэгіён з Чарнаморскім.

***ПАДПІСАЦЦА НА «НАША СЛОВА» МОЖНА Ў ЛЮБЫМ ПАШТОВЫМ АДДЗЯЛЕННІ НАШАЙ КРАІНЫ.** Да заканчэння падпіскі засталося ўсяго толькі два тыдні. Кошт падпіскі на тры месяцы — 1800 рублёў, на адзін месяц — 600 рублёў. Індэкс — 63865 . Падпішыцеся на «Наша слова» — сёння! Атрымлівайце «НС» — кожную сераду. Чытайце «НС» — кожны дзень.*

## «У нас не страляюць...» Пакуль?

Практычна кожнае грамадскае мерапрыемства ўяўляе сабой цікавасць для нашых карэспандэнтаў. Ужо хаця б таму, што нам не ўсё роўна, як там выкарыстоўваецца беларуская мова і якое ўвогуле да яе стаўленне. Ну а яшчэ, хоць іншы раз і кажуць, што мова нейтральная ў адносінах да палітыкі і здольная роўна абслужыць левых і правых, белых і чырвоных, але ж у нас на Беларусі, на жаль, самі палітыкі далёка не нейтральныя да яе. І ў нашым выпадку мова можа разглядацца амаль што ў якасці хімічнага рэагента для выяўлення таго, хто і як ставіцца да выжывання беларускага народа, да яго дзяржаўнасці. Не была выключэннем па гэтых прычынах і цікаўнасць «Нашага слова» да міжнароднай канферэнцыі па пытаннях канстытуцыйных асноў самакіравання ва Усходняй Еўропе, якая адбылася ў Менску ў самым канцы красавіка. Прыемна адзначыць, што ўжо старшынствуючы, які прадстаўляў Беларускі рэспубліканскі фонд падтрымкі дэмакратычных рэформ імя знакамітага канцлера ВКЛ Льва Сапегі, задаў канферэнцыі належны ўзровень, свабодна і пастаянна карыстаючыся дзяржаўнай мовай Беларусі. На прыгожай беларускай мове прагучала таксама ўступнае слова віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук Беларусі (а яшчэ з гонарам дададзім — і члена рэдкалегіі «Нашага слова») акадэміка Радзіма Гарэцкага.

Галоўная мэта ўсіх дэмакратычных сіл Беларусі, адзначыў выступоўца,— стварэнне самастойнай эканамічна моцнай еўрапейскай дзяржавы. А ў аснове гэтых намаганняў, падкрэсліў Радзім Гарэцкі, ляжыць нацыянальная беларуская ідэя, якая выпакутавана лепшымі прадстаўнікамі народа многіх пакаленняў. Сутнасць яе, сказаў ён,— стварэнне сапраўды незалежнай краіны, развіццё эканомікі, культуры, адукацыі, навукі, мовы пры ўдзеле ўсіх грамадзян Беларусі незалежна ад нацыянальнай і рэлігійнай прыналежнасці. На жаль, заўважыў Р. Гарэцкі, гэтая ідэя не стала кіруючай для старанаменклатурнай большасці нашага Вярхоўнага Савета і ўрада. Нечакана атрымаўшы суверэнітэт у выніку аддзялення ўсіх суседніх рэспублік у самастойныя дзяржавы, маючы найлепшыя стартавыя ўмовы, нашы ўлады ўсё ж умудрыліся давесці Беларусь да крызіснага тупіковага стану. Калі раней яны хваліліся, што ў нас лепш, чым у іншых, дык зараз засталося казаць толькі адно — «а ў нас не страляюць».

Апошнія падзеі ўваходу Беларусі ў ваенную калектыўную бяспеку і асабліва ў «рублёвую зону», працягваў выступоўца, пацвярджаюць, што мы паступова губляем тую мізэрную незалежнасць, якую нам далі перабудоўчыя і «белавежскія» падзеі. Большасць людзей гэта разумеюць не толькі на Беларусі, але і ў Расіі. Аб гэтым адкрыта гавораць многія кіраўнікі ўлад Расіі. Так, днямі У. Шумейка сказаў:«Объединение России и Белоруси в единую рублёвую зону непременно приведёт к политическому объединению».

Эканоміка і палітыка — галоўныя рычагі развіцця грамадства — цесна звязаны паміж сабой. Толькі правільныя суадносіны, разумны баланс між імі дазваляюць пазбегнуць катаклізмаў. Неабходна кансалідаваць патэнцыял навукі, законатворчых органаў і выканаўчай улады для рашэнняў гаспадарчых, сацыяльных і іншых праблем дзяржавы. Правядзенне дэмакратычных рэформаў на ўсіх узроўнях — ад вярхоўнага да мясцовага — найважнейшая праблема пабудовы незалежнай дэмакратычнай дзяржавы, падкрэсліў акадэмік Радзім Гарэцкі.

Варта адзначыць, што, дзелячыся вопытам рэгулявання мясцовых (рэгіянальных) праблем, рэфармавання сістэмы органаў улады на ўзроўні рэгіёнаў, практычна ўсе выступоўцы — з Албаніі, Балгарыі, Латвіі, Францыі і інш. — у той ці іншай форме адзначалі, што ніякія звышнавуковыя і разумныя з пункту гледжання спецыялістаў пераўтварэнні не будуць эфектыўнымі, калі не будуць улічвацца этнічна-культурныя асаблівасці мясцовага насельніцтва. Асабліва выразна прагучала гэта ў выступленні Стэфана Яськевіча — намесніка старшыні Прэзідыума самакіруемага сейміка Гданьскага ваяводства, які падкрэсліў, што ў яго краіне канстытуцыйныя рэформы ў сферы мясцовага самакіравання лепш ішлі тады, калі ўлічвалі асаблівасці польскага характару і культуры. Нават самі назвы кіруючых пасад нагадваюць гісторыю польскай мовы і ўмацоўваюць польскі менталітэт. Варта адзначыць, што і большасць нашых беларускіх вучоных-эканамістаў і юрыстаў у сваіх выступленнях пацвердзілі, што ставіцца да мясцовага насельніцтва проста як да нейкай механічнай масы жыхароў, што часта было характэрным у часы камуністычнага кіравання, значыць рабіць вялікую памылку. Прафесар Адам Мальдзіс, з якім мы гутарылі ў перапынку, аналізуючы выступленні, таксама пагадзіўся, што без пільнага ўліку нацыянальнага фактара любая механічна арганізаваная сістэма кіравання будзе працаваць недасканала.

**Карэспандэнт «Нашага слова».**

*У газетах*

## Беларусі патрэбны сапраўдны лідэр

**Пад такой назвай гарадзенская газета «Пагоня» (рэгіянальны агляд: Гародня — Вільня — Беласток) змясціла (№ 13, 12 траўня г. г.) некалькі кароткіх выказванняў жыхароў гэтага абласнога цэнтра. Апытаныя аднадушна лічаць, што народны дэпутат Вярхоўнага Савета, старшыня БНФ Зянон Пазьняк — сапраўдны палітычны лідэр Беларусі, якога яны хочуць бачыць прэзідэнтам рэспублікі. Сваю пазіцыю апытаныя тлумачаць рознымі важкімі аргументамі. Напрыклад, лекар Іван Цярэшка падкрэсліў, што разам з калегамі па працы будзе галасаваць за Пазьняка, бо «час прыспеў, каб на нашай зямлі скончылася панаванне чужога нашаму народу парадку». А старшыня абласной рады БНФ М. Баўсюк, каменціруючы кампанію па збору подпісаў на Гарадзеншчыне аб вылучэнні кандыдатаў у прэзідэнты Беларусі, адзначыў, што сярод іншых прэтэндэнтаў З. Пазьняк мае найвышэйшы рэйтынг, яго падтрымліваюць моладзь і людзі да 40 гадоў.**

## Помнік Багдановічу ў Яраслаўлі

**Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі «Літаратура і мастацтва» 29 красавіка г. г. паведаміла, што неўзабаве ў г. Яраслаўлі будзе ўрачыста адкрыты помнік нашаму выдатнаму паэту Максіму Багдановічу. Гэта падзея стала магчымай дзякуючы дабрачыннасці скульптара Сяргея Вакара, які ахвяраваў мадэль свайго помніка паэту, устаноўленага каля сталічнага Тэатра оперы і балета, дапамозе міжвыдавецкага фотацэнтра, саюза журналістаў, выдавецтва «Полымя», фірмы «Дайнова», газеты «Частный детектив» і праваслаўнай епархіі.**

**Да згаданай інфармацыі дададзім, што ініцыятыва паставіць помнік М. Багдановічу ў Яраслаўлі — горадзе, дзе прайшла значная частка кароткага жыцця паэта,— належыць Менскаму клубу «Спадчына», старшыня якога А. Белы разам з актывістамі суполкі ТБМ імя Ф. Скарыны МАЗа А. Суцэвічам і М. Мацкевічам ажыццявілі перавозку помніка з Менска ў Яраслаўль.**

**М. В.**

## Ідзе падпіска!

**У сувязі з пачаткам чарговай падпіснай кампаніі на перыядычныя выданні на трэці квартал бягучага года жлобінская аб'яднаная раённа-гарадская рада ТБМ імя Ф. Скарыны звярнулася праз мясцовы друк да жыхароў Жлобіншчыны падтрымаць беларускамоўны друк. Радай таксама было прынята рашэнне перадаць раённаму аддзелу Беларускага таварыства інвалідаў у якасці падарунка дваццаць экземпляраў падпіскі на газету «Наша слова».**

**М. Ш.**

*Жыццё Таварыства*

# Чыя суполка лепшая?

***Рэспубліканская рада ТБМ атрымала значную колькасць лістоў ад першасных арганізацый Таварыства — удзельнікаў конкурсу на лепшую суполку. Апошнім часам інфармацыі аб сваёй дзейнасці даслалі арганізацыя Маладзечанскага завода парашковай металургіі, Нясвіжская раённая Рада ТБМ, Жлобінская раённая Рада ТБМ, Беларуская політэхнічная акадэмія. Паведамленне апошняй публікуецца ніжэй.***

## Даведка

Таварыства беларускай мовы ў акадэміі створана чатыры гады таму назад. За гэты час падрыхтаваны і знаходзяцца ў выдавецтвах:

1. Два падручнікі на беларускай мове па вышэйшай матэматыцы для ВНУ (Аўтары праф. Мікулік М. А. і інш.).

2. Руска-беларускі фізічны слоўнік на 25 тыс. слоў (Аўтары Самайлюковіч М. А. і інш.).

3. Руска-беларускі тлумачальны слоўнік па геадэзіі (Аўтары праф. Несцяронак М. С. і інш.).

4. Руска-беларускі тэрміналагічны слоўнік па вышэйшай матэматыцы (Аўтары Сухая Т. А. і інш.). Надрукаваны.

Гэта грунтоўныя навуковыя і метадычныя працы, якіх у рэспубліцы пакуль няма.

5. Распачата і нядрэнна ідзе работа па перакладу на беларускую мову метадычнай літаратуры. Перакладзены і рыхтуюцца да друку метадычныя работы:

а) Узмацненне металічных канструкцый пры рэканструкцыі будынкаў і забудоў.

б) Кампаноўка каркасаў будынкаў з вызначэннем нагрузак.

в) Метадычныя ўказанні да курсавой работы па архітэктуры.

г) Электрычная частка электрычных станцый.

д) Разлік літнікова-сілкавальных сістэм для сталёвых адлівак.

е) Карозія і ахова металаў.

ж) Філасофія тэхнікі.

Такіх метадычных работ перапрацавана, перакладзена і падрыхтавана да друку 16. Да канца навучальнага года да друку будуць падрыхтаваны яшчэ чатыры работы. Гэта тая навукова-метадычная аснова, на якой можна будзе распачынаць выкладанне на дзяржаўнай мове.

У акадэміі на беларускай мове чытаецца курс вышэйшай матэматыкі, геадэзіі, электратэхнікі, філасофіі і логікі. На беларускай мове ідзе выкладанне курса гісторыі айчыны, сусветнай і айчыннай культуры, з будучага навучальнага года на ўсіх першых курсах усіх факультэтаў будзе курс беларускай мовы для студэнтаў і спецыяльная праграма курса беларускай мовы для бакалаўраў, другі год чытаецца курс беларускай мовы для аспірантаў. Усяго па-беларуску працуюць 23 выкладчыкі.

Знешняе афармленне: шыльды, назвы лабараторных карпусоў і самі лабараторыі, назвы кафедраў перакладзены на беларускую мову. З новага навучальнага года плануецца пісаць расклад заняткаў па-беларуску.

У акадэміі працуюць курсы беларускай мовы. У кожным дэканаце на большасці кафедраў ёсць беларускамоўныя машынкі, скончылі беларускамоўныя курсы машыністкі і могуць друкаваць па-беларуску.

У акадэміі ёсць мастацкая самадзейнасць, у рэпертуары якой пераважае нацыянальная тэматыка. Удзельнікі мастацкай самадзейнасці выступаюць не толькі ў межах горада, рэспублікі, але і перад насельніцтвам блізкага і далёкага замежжа.

**А. ШАСТАКОВІЧ.**

*Дзе і што?*

# ВЫВУЧАЕМ СВАЕ КАРАНІ

**Апошнім часам у Смалявіцкім раёне нямала зроблена па выкананні Закона аб мовах. Тут распрацавана доўгатэрміновая праграма «Спадчына». Выконваючы яе, на дзяржаўную мову ўжо пераведзена навучанне і выхаванне ва ўсіх пачатковых класах школ раёна, дзіцячых садках і пазашкольных установах.**

**У некаторых школах выкладаюцца курсы «Народазнаўства», «Наша спадчына». У дапамогу настаўнікам, якія вядуць гэтыя курсы, распрацаваны і надрукаваны спецыяльныя дапаможнікі «З гісторыі населеных пунктаў Смалявіцкага раёна» і «Побыт, звычкі, рытуалы і святы сялян Смалявіччыны». Амаль у кожнай навучальнай установе створаны краязнаўчыя гурткі, у двух школах працуюць музеі. Рэгулярна праводзяцца тыдні, дэкады беларускай мовы і культуры, іншыя мерапрыемствы, якія павінны спрыяць пашырэнню беларускасці сярод маладых грамадзян раёна.**

**Генусь ПУШЧАНСКІ.**

***У ДРУКУ З'ЯВІЛАСЯ ПАСТАНОВА ПРАЎЛЕННЯ НАЦЫЯНАЛЬНАГА БАНКА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АД 18 ТРАЎНЯ 1994 ГОДА, № 5 «АБ ПЛАЦЕЖНЫМ СРОДКУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ», у якой, у прыватнасці, гаворыцца: «Да фактычнага аб'яднання грашовых сістэм Беларусі і Расійскай Федэрацыі лічыць адзіным плацёжным сродкам Рэспублікі Беларусь беларускі рубель, а ў наяўным абароце — разліковы білет Нацыянальнага банка, намінальнае выражэнне якога роўна 10 беларускім безнаяўным рублям. Усе разлікі на тэрыторыі Беларусі ажыццяўляюцца ў беларускіх рублях.» Першы крок да нацыянальнай валюты?***

*Да 50-годдзя вызвалення Беларусі*

***была прысвечана акцыя, праведзеная ў вёсцы Кароткавічы напярэдадні Дня Перамогі жлобінскімі арганізацыямі Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі і Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Спачатку на месцы мемарыяльнага комплексу, прысвечанага спаленым акупантамі і паліцаямі ў час апошняй вайны і неадроджаным вёскам, былі ўскладзены кветкі і гірлянды.***

# ПАМЯЦІ СПАЛЕНЫХ

**Нагадаем, што размова ідзе аб вёсках Браткі (загінула 27 жыхароў, знішчана 10 двароў), Грушка (20 жыхароў, 11 двароў), Залессе (23 жыхары, 17 двароў), Замосце (4 жыхары, 10 двароў), Краснаўка (45 жыхароў, 10 двароў). Ахвяры генацыду былі ўшанаваны мінутай маўчання. Затым госці з раённага цэнтра наведалі некаторых жыхароў вёскі Кароткавічы, якія самі перажылі ўсе жахі тых дзён і цудам засталіся ў жывых, паслухалі і занатавалі для гісторыі іх успаміны.**

**Найбольш поўным быў расказ сямідзесяцідвухгадовай карэннай жыхаркі вёскі Кароткавічы Антаніны Нічыпараўны Навуменкі:**

**— У кастрычніку 1943 года ў сувязі з набліжэннем да нашых мясцін фронту немцы загадалі ўсім жыхарам нашай вёскі пакінуць яе. Мы разам з жыхарамі суседніх вёсак былі вымушаны размясціцца прама ў лесе, у зямлянках. Да нас прыбілася і нямала партызан, якія з прычыны вялікага наплыву варожых войскаў і паліцаяў былі вымушаны часова змяшацца з мірным насельніцтвам.**

**Тут, у лесе, у голадзе і холадзе, у пастаянным страху мы прасядзелі амаль да самых Каляд. Немцы адступалі. Разам з імі ў бок да Бабруйска выпрашыла адыходзіць і значная частка мірнага насельніцтва, што, у рэшце рэшт, і выратавала іх. Але нямала з нас засталося чакаць наступлення Савецкай Арміі на месцы. Немцы не хацелі дапусціць гэтага. Яны пагналі людзей у вёску Ала (цяперашні Светлагорскі раён).**

**Спачатку немцы і паліцаі адабралі здаровых мужчын (каля 50 чалавек). Каля вёскі Іскра іх расстралялі з кулямётаў, папярэдне прымусіўшы выкапаць для сябе яму. А праз некалькі дзён дайшла чарга і да нас. Было гэта на стары Новы год, 14 студзеня 1944 года. А сёмай гадзіне раніцы ў вёску ўварваліся немцы і паліцаі, якія пачалі выганяць людзей з хат. Некаторыя былі нават босыя (а мароз у той дзень стаяў моцны). Потым усіх з дапамогай вялізных і злых аўчарак з крыкамі «Рус — банда!» загналі ў хлявы. І пачалося...**

**Людзей групамі па 15—20 чалавек выводзілі з хлявоў і зачынялі ў хатах, якія адразу падпальвалі. Тых, хто хацеў выскачыць з полымя, знішчалі кулямётнымі чэрга-**

# НОВАЕ

**Беларускі маладзёжны рух у постсавецкіх краінах, яго стан, перспектывы і роля ў адраджэнні беларускай нацыі — гэтак была акрэслена праблематыка Першай сустрэчы беларускай моладзі свету, якая адбылася 22—23 красавіка ў Менску. Яе арганізатарамі сталі Задзіночанне беларускіх студэнтаў, студэнцкае аб'яднанне «Беласточчына», Саюз беларускай каталіцкай моладзі ды Аб'яднанне беларускіх скаўтаў, а ўдзельнікамі — дэлегаты 18 арганізацый беларускай моладзі з 8 краін. Акрамя іх, удзел у сустрэчы ўзялі прадстаўнікі Камітэта па справах моладзі пры Савеце Міністраў, Камісіі па справах моладзі Вярхоўнага Савета, Міністэрства адукацыі, Міністэрства культуры і друку, Міністэрства замежных спраў, Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», таварыства «Радзіма».**

**Не засталося ўбаку ад форуму нацыянальнай моладзі і Таварыства беларускай мовы. Удзельнікамі сустрэчы сталі мноства арганізацый і суполак — калектыўных сябрын ТБМ. Гэта і ТБМ Санкт-Пецярбурга, і сябрына «Прамень» з Рыгі, і Таварыства беларускай школы Літвы, і маладзёжныя суполкі са Стоўбцаў і Ліды, ды, урэшце, юрыдычны прадстаўнік аргкамітэта сустрэчы — Задзіночанне беларускіх студэнтаў. І гэта не дзіўна, бо, як сказаў старшыня ЗБС Аляксей Глушко, «ва ўсім, што датычыць нацыянальнай мовы і культуры, пазіцыі нашага руху цалкам супадаюць з патрабаваннямі Статута ТБМ».**

**Прапануем увазе чытачоў гутарку з ім нашага карэспандэнта.**

**— Якія асобы ці арганізацыі выступілі з ідэяй правядзення сустрэчы?**

— Сама ідэя ўзнікла яшчэ ў мінулым годзе. А ініцыятарамі сталі беларускія патрыятычныя маладзёжныя арганізацыі: Задзіночанне беларускіх студэнтаў, Аб'яднанне беларускіх скаўтаў, маладзёжная філія Беларускага народнага фронту, Саюз беларускай каталіцкай моладзі.

**— Чаму менавіта яны, а, напрыклад, не больш масавы і заможны Саюз моладзі Беларусі?**

— Гэта тлумачыцца нацыянальным характарам арганізацый — ініцыятараў і ўдзельнікаў форуму. Да таго ж усе яны мелі даўнія і плённыя сувязі з суполкамі нацыянальнай моладзі ў краі, а таксама Літве, Польшчы, Расіі... Мы заўсёды лічылі неабходным падтрымліваць кантакты з беларускімі асяродкамі замежжа, і гэта аблегчыла справу.

**— Удзельнікамі сустрэчы сталі дэлегаты мноства арганізацый. Якіх менавіта?**

— Скажу адразу: мы ніколі не мелі за мэту сабраць як мага большую колькасць арганізацый-удзельнікаў. Тым не менш іх аказалася шмат, і самага рознага накірунку: студэнцкія, скаўцкія, палітычныя, краязнаўчыя, фальклорныя... Прасцей сказаць, хто не прысутнічаў: арганізацыі — нашчадкі былога камсамола. Бо ўсе аб'яднанні, прадстаўленыя на сустрэчы, паўсталі як альтэрнатыўныя камсамолу і маючыя выразную беларускую патрыятычную скіраванасць.

**— Калі гаварыць аб патрыятызме, дык яшчэ ў часы СССР паўстала існуючая дагэтуль сетка ваенна-патрыятычных аб'яднанняў. Што да беларускасці, дык слова «беларуская» ёсць у назвах мноства рэспубліканскіх арганізацый самага рознага накірунку...**

— Мы арыентаваліся на беларускі, а не на жывы дагэтуль так званы савецкі патрыятызм.

**— Ці не азначае гэта, што адной з умоў запрашэння да ўдзелу была беларускамоўнасць?**

— Так, але не адзіная. Мы звярталі ўвагу на стаўленне магчымых удзельнікаў да справы нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі.

**— Якімі былі мэты сустрэчы, што сабрала ўдзельнікаў настолькі выразнай нацыянальнай арыентацыі?**

— Напачатку мы планавалі правесці проста рабочую нараду з невялікай колькасцю прысутных — па два прадстаўнікі ад кожнага з беларускіх асяродкаў замежжа і арганізацый у краіне. Але пасля таго, як быў абвешчаны пачатак падрыхтоўкі да сустрэчы, у арганізацыйны камітэт прыйшло вельмі шмат лістоў з заявамі на ўдзел. У выніку нечаканага для ўсіх павелічэння колькасці патэнцыяльных удзельнікаў змянілася канцэпцыя планаванай намі акцыі. З невялікай нарады яна ператварылася ў прадстаўнічы сход.

Што да мэт сустрэчы, дык яны былі сфармуляваны так: усталяванне шматбаковых сувязей паміж арганізацыямі, стварэнне ўласнай інфармацыйнай сеткі, выпрацоўка прынцыпаў супрацоўніцтва і прыняцце праграмы сумеснай дзейнасці. І, самае галоўнае, прыцягненне ўвагі дзяржавы да праблем беларускай моладзі як у краі, так і за мяжой.

**— У свой час існавала Канфедэрацыя беларускіх суполак — нефармальны каардынацыйны цэнтр нацыянальнага маладзёжнага руху. Паміж дзейнасцю КБС і дзейнасцю арганізатараў Першай сустрэчы беларускай моладзі свету можна ўгледзець пэўнае падабенства...**

— Сустрэчу сапраўды можна параўнаць з колішнімі Вальнымі соймамі маладзёж-

# ВЁСАК

мі. Хутка полымя ахапіла і нашу саламяную страху. Я павалілася. Але неяк мне ўсё ж удалося выбрацца з агню, бо калі апамяталася — зразумела, што ляжу на снезе. Уся спіна была абпалена, асабліва моцна агнём пашкодзіла правую нагу. Але цярпела, баялася, што ўбачаць немцы, якія з сабакамі дабівалі яшчэ жывых. Адзін сабака наблізіўся да маёй галавы, ды, на шчасце, яго паклікалі.

Калі сцямнела, я асмелілася падняцца. Страх зноў агарнуў мяне, бо навокал не было ніводнай жывой душы. Здавалася, што на гэтым свеце ў жывых засталася адна я. Хацелася ўбачыць хоць нейкую птушачку, каб спытаць, куды мне ісці. Я тапталася па снезе цэлую ноч, пакуль пад раніцу не заўважыла наперадзе паміж дрэвамі нечыя постаці. Падумала, што гэта немцы. Вырашыла, няхай страляюць лепш у спіну, і адвярнулася. Але, на шчасце, гэта былі мой стрыечны брат Хвядос і сусед Тарас, якія вельмі здзівіліся, убачыўшы мяне жывую.

Потым высветлілася, што ў той страшны дзень загінула восем чалавек з маёй радні, у тым ліку маці, сёстры, пляменнікі. Сама ж я ад атрыманых апёкаў ледзьве выжыла. Выратавала народная медыцына. І сёння мая зямлячка Хвядора Ісаенка, якая разам са мной перажыла ўсё гэта, як убачыць мяне, дык не верыць, што я — жывая.

Да сказанага дададзім, што Антаніна Нічыпараўна пасля вайны засталася жыць у сваёй роднай вёсцы Кароткавічы, дзе з 267 хат ацалела толькі адна. Тут яна доўгі час працавала бухгалтарам у мясцовай гаспадарцы, выйшла замуж за прыгожага хлопца Івана з вёскі Гармавічы, які прайшоў вайну і за праяўленую мужнасць меў баявыя ўзнагароды. У сям'і нарадзілася аж сямёра дзяцей, з якіх, на жаль, па слабасці здароўя маці, чацвёра адразу памерлі. Жывуць у згодзе Антаніна Нічыпараўна і Іван Савельевіч і сёння.

**Мікалай ШУКАНАЎ,**
**старшыня Жлобінскай аб'яднанай раённа-гарадской Рады ТБМ імя Ф. Скарыны.**

*Уражанні*

# ГРЭХ

Памятаю, яшчэ зусім малым быў я з бабуляй гарачым летнім днём на могілках. Бабуля ўкленчыла ля кароткай магілкі і ціха, аднымі збялелымі вуснамі шаптала малітву. Па твары каціліся слёзы. Малітва раз-пораз перарывалася ўсхліпамі і шэптам: «Дзетачкі мае родныя, мае ж вы крывіначкі мілыя...»

Я яшчэ не разумеў тады ні шчасця жыцця, ні трагедыі смерці. Але было да жаху шкада бабулю. Што рабіць? Як суцешыць? І тут, паміж надмагільных пліт, якія зараслі травой, я ўбачыў чырвоныя, сакавітыя суніцы. Яны раслі на сцяжынцы паміж магілкамі. Я сарваў некалькі: «На, бабулька, не плач!»

Яна спалохана зірнула на мяне і, дакорліва паківаўшы галавой, сумна сказала: «Пакладзі на магілку. Яны выраслі для тых, хто тут пахаваны. Толькі для іх».

У пачатку 80-х гадоў я вярнуўся на працу ў родны горад. Аднаго разу ішоў па вуліцы Пушкіна. І... аслупянеў. Могілак — няма! Такога не можа быць — разважаў. Не можа быць... Тая ж вуліца, тыя ж хаты, тое ж сонца. Толькі ў трывожным прадчуванні небяспекі чамусьці напружвалася цела...

Штурхаю веснічкі першай хаты. У двары дзед сячэ дровы. Гукаю, не вітаючыся: «Дзед, а дзе могілкі?» Дзед застыў з паднятай над галавой сякерай. Затым адным ударам усадзіў яе ў палена і выдыхнуў: «Няма». Перавярнуў сякеру, якая загрузла ў палене, узмахнуў, ударыў абухом па калодзе. Палена з трэскам разляцелася, ён ізноў выдыхнуў: «Зруйнавалі злыдні».

Я сеў на зэдлік каля студні. І адразу адчуў сябе малым, як шмат год таму назад. У вачах паўсталі чырвоныя, бы кроплі крыві, суніцы на дзіцячай магілцы. Падышоў дзед:

— Што, твае родныя тут ляжаць?

— Не, — кажу,— бабуля на вясковых. Але ж мы ўсе — родныя.

— Так,— кажа,— правільна. Ды што мы маглі? Гэта не людзі зруйнавалі. Гэта начальства. Хто змог — перазахаваў...

— А хто не змог?

— Ды ўсе не змаглі, бо ў магілах ужо самі ляжалі. А жывыя абараніць магілы родных не змаглі таксама.

— А ты, дзед?

— Я? З сякерай супраць бульдозера?

— На дзеда не наехалі б!

— На дзеда? Ім усё роўна. П'яныя былі, крыжа на іх не было... Яны ж і крыжы, і помнікі звезлі на вуліцу Суворава, затым у балота кінулі...

— Ды гэта ж злачынства!

— Не кажы, сынок. Грэх гэта смяротны! Бачыш, пустка зараз тут, поўна смецця. Вунь суседка, каб яе чорт, казу навязала. Дзеці ў футбол гуляюць. Добраўпарадкавалі, скверам гэта месца цяпер назвалі. Правільна, напэўна, назвалі, бо скверна — брыдота панашаму. Ад такой брыдоты душы іх не ачысцяцца, бо аж да сёмага калена караецца любы смяротны грэх. Гэта — злыдні. Як можна мёртвых таптаць! Бывай, сынок... Моташна жыць!

**Лявон ЦІМОХІН.**

г. Маладзечна.

# ПАКАЛЕННЕ ВЫБІРАЕ БЕЛАРУСЬ

ных суполак — як паводле кантынгенту ўдзельнікаў, так і паводле яе скіраванасці. Канфедэрацыя перастала існаваць, але цяпер адсутнасць гэтай структуры адмоўна адбіваецца на руху моладзі. Сёння шматлікія арганізацыі і суполкі раз'яднаныя і не маюць ніякай сувязі паміж сабой, нават інфармацыі аб дзейнасці сваіх аднадумцаў. У дадатак нефармальны статус большасці з гэтых арганізацый не дазваляе ім браць удзелу ў нейкіх сур'ёзных маладзёжных праграмах урада, выходзіць на кантакты з замежжам, на дзяржаўныя структуры і тым самым уплываць на становішча ў краіне.

Але адрозненне нашай сітуацыі ад часу, калі існавала Канфедэрацыя, у тым, што цяпер ужо аформілася некалькі буйных агульнакраёвых арганізацый нацыянальнай моладзі. Другое адрозненне — большасць людзей, якія складалі суполкі ў 80-х гадах, папросту пасталела. Яны пайшлі ў палітыку, у бізнес, займаюцца грамадскай дзейнасцю. І новая хваля пачатага калісьці імі руху сёння ўзнята людзьмі новага пакалення. Гэта сведчыць аб трываласці ідэй, якімі кіруецца новае пакаленне маладых беларусаў. Гэтак было заўсёды: хвалі руху нацыянальна свядомай моладзі ўздымаліся ў даі пасляраэвалюцыйным часе, у даваенным, ваенным і паваенным.

**— Сярод арганізатараў сустрэчы былі названы не толькі прадстаўнікі арганізацый моладзі, а і дзяржаўныя структуры: Міністэрства адукацыі, Міністэрства культуры і друку ды іншыя. Як склалася і які выгляд мела гэтае супрацоўніцтва?**

— Ва ўрадавых установах мы сустрэлі людзей, неабыякавых да стану беларускай культуры, да будучыні беларускай дзяржавы і яе маладых грамадзян. І таму мы часта знаходзілі разуменне і падтрымку на выканаўчым узроўні. Нам дапамагалі супрацоўнікі міністэрстваў адукацыі, культуры і друку, замежных спраў, Камітэта па справах моладзі пры Савеце Міністраў... Але іншую пазіцыю займала вышэйшае кіраўніцтва рэспублікі, перш за ўсё ў асобах старшыняў Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў ды часам вышэйшага кіраўніцтва згаданых мной міністэрстваў. Часам арганізатарам сустрэчы здавалася, што ў вышэйшых уладных структурах нашую сустрэчу разглядалі як апазіцыйную. Яе баяліся і не жадалі. Не тое, каб нам імкнуліся перашкодзіць яе арганізаваць, але пажаданне аб тым, каб яна не адбылася, выказаў сам Старшыня Вярхоўнага Савета.

**— Гэта азначае, што вы былі пазбаўлены практычнай падтрымкі з боку дзяржавы?**

— Арганізацыя сустрэчы каштавала нам дваццаць мільёнаў рублёў — суму, значную нават сёння. Асноўная частка гэтых сродкаў была сабрана намі ў прыватных камерцыйных структурах. Дзяржаўныя ж установы звычайна спасылаліся на адсутнасць сродкаў — нават па дзяржаўнай праграме «Беларусы ў свеце». Але, на маю думку, сапраўдная прычына — у неразуменні імі праблем нацыянальнага маладзёжнага руху. У выніку дапамога дзяржавы — вылучаныя нам Камітэтам па справах моладзі два мільёны рублёў — пакрыла адно дзесятую частку агульных выдаткаў. Тым не менш трэба адзначыць, што дапамогу нам аказала Міністэрства адукацыі, бясплатна пасяліўшы ў інтэрнатах частку ўдзельнікаў сустрэчы, і таварыства «Радзіма», якое набыло зваротныя білеты польскай дэлегацыі. Але галоўны цяжар выдаткаў лёг на плечы арганізатараў.

**— Зноў аб стаўленні да ўдзельнікаў сустрэчы ўлад: падчас круглага стала асобы, што прадстаўлялі дзяржаўныя структуры, часам не маглі кампетэнтна адказаць на пытанні прысутных...**

— Дзяржаву прадстаўлялі чыноўнікі не самага высокага рангу, і таму частка пытанняў папросту выходзіла за межы сферы іх дзейнасці. Тым не менш пытанні, на якія дэлегаты не атрымалі адказаў (вайсковае шкаленне, дзейнасць ВНУ ды іншыя) занатаваны і будуць у пісьмовай форме перададзены ў дзяржаўныя арганізацыі. За гэтым будзе сачыць створаны падчас сустрэчы выканаўчы камітэт.

**— Сярод абмеркаваных пытанняў былі і прапановы стварэння ўласных, паралельных дзяржаўным, камерцыйных і інфармацыйных структур...**

— Так, мы адчуваем неабходнасць наладзіць эфектыўны інфармацыйны абмен паміж суполкамі і арганізацыямі беларускай моладзі. Дзеля гэтага планецца стварэнне інфармацыйнага выдання, хутчэй за ўсё бюлетэня. Што датычыць прадпрымальніцтва, дык удзельнікі біснесавай секцыі выказаліся за немэтазгоднасць утварэння камерцыйных структур у рамках некамерцыйных маладзёжных арганізацый. Адзіным выключэннем былі прызнаны міжнародныя і міжрэгіянальныя студэнцкія абмены з мэтай сезоннага працаўладкавання — кшталту будаўнічых атрадаў. Увогуле, удзельнікі той жа секцыі рэкамендавалі ствараць асобныя, не звязаныя з грамадскімі, палітычнымі альбо іншымі камерцыйныя структуры ды скіроўваць здольных да прадпрымальніцтва маладых людзей ва ўжо існуючыя — набірацца досведу, каб у будучыні ствараць нацыянальны бізнес.

**— Яшчэ адной праблемай, падчас абмеркавання якой было выказана шмат прэтэнзій да дзяржавы, стала выкананне праграмы «Беларусы ў свеце». Чаму яна прыцягнула да сябе такую ўвагу?**

— Праграма, на жаль, абсалютна не ўлічвае існавання па-за межамі краіны маладога пакалення беларусаў. Адзіным выключэннем стала арганізацыя летнікаў для дзяцей беларусаў замежжа, але невядома, хто і паводле якіх прынцыпаў займаецца арганізацыяй гэтых летнікаў. Мы маем прэтэнзіі да пунктаў, якія датычаць беларускай моладзі замежжа. Напрыклад, як і хто накіроўвае і мае права накіроўваць дзяцей у рэспубліканскі летнік «Зубраня»? Як у яго працы паўдзельнічаць маладым беларускім педагогам і выхавацелям з замежжа і краю? Якімі крытэрыямі карыстаюцца ВНУ, адбіраючы абітурыентаў у беларускіх ліцэях Польшчы? Словам, праграма «Беларусы ў свеце» стварае ўражанне, што яе распрацавалі хутчэй дзеля таго, каб ствараць адно ўражанне клопату аб беларускай дыяспары, чым дзеля канкрэтнай ёй дапамогі.

**— Сярод выніковых дакументаў Першай сустрэчы беларускай моладзі свету быў адзін, здольны выклікаць неадназначную рэакцыю ў грамадстве...**

— Маецца на ўвазе зварот да Міністэрства юстыцыі з патрабаваннем рэабілітацыі Саюза беларускай моладзі? Але ж знішчаны сталінскім рэжымам СБМ быў масавай патрыятычнай арганізацыяй. А мы лічым сябе пераемнікамі патрыятычнага руху і ваеннага, і ранейшага часу. Арганізацыі — удзельнікі сустрэчы ў лік сваіх духоўных папярэднікаў уключаюць і Саюз беларускай моладзі. Бо для нас важная не накінутая яму палітычная скіраванасць, а беларускі патрыятызм, які быў яго сапраўднай сутнасцю. А што да ідэйнай афарбоўкі, дык тут варта згадаць камсамол, які ўвесь час свайго існавання прапагандаваў і падтрымліваў таталітарную камуністычную сістэму, чужую беларускаму народу не менш, чым фашызм. Але ў адрозненне ад СБМ дзейнасць ВЛКСМ і яго структуры ЛКСМБ дагэтуль не асуджана і не забаронена. Таму маладыя беларусы маюць падставы патрабаваць рэабілітацыі Саюза беларускай моладзі.

**— Ці не вынікае з гэтага, што да сваіх духоўных папярэднікаў вы адносіце і камсамол Заходняй Беларусі ў час яе знаходжання ў складзе Польшчы?**

— Патрыятызм гэтай арганізацыі нам блізкі таксама, як далёкая яе ідэйная сутнасць. А калі ўжо гаварыць аб арганізацыях мінулага часу, дык мы не прыхільнікі падзелу іх на «сваіх» і «чужых», патрэбна вывучэнне кожнай.

**— Дастаткова цвёрда вызначанае стаўленне да сваіх папярэднікаў азначае сталасць і адзінства руху Маладой Беларусі?**

— На сустрэчу ў Менск прыязджалі розныя людзі з рознымі поглядамі на будучыню краіны, рознымі палітычнымі схільнасцямі, рознымі ўяўленнямі аб скіраванасці руху беларускай моладзі. Але ўжо сама разнастайнасць арганізацый, што ствараюць гэты рух, сведчыць аб яго рэальнасці і сталасці. Бо ж з часам спектр арганізацый як грамадскіх, так і палітычных пашыраецца. Існуюць і ствараюцца самыя розныя структуры — ад нефармальных суполак да маладзёжных філій палітычных партый. Але галоўным для нас з'яўляецца не палітычная скіраванасць ці грамадскі статус, а здольнасць да працы на адраджэнне краіны і жаданне супрацоўніцтва з іншымі. І такіх сярод прысутных была большасць — гатовых працаваць дзеля Беларусі.

**— Гэта значыць, што за першай сустрэчай будзе і другая?**

— Так. Наступныя сустрэчы могуць мець іншую форму — фестываляў моладзі альбо Вальных соймаў. Але я веру, што яны захаваюць свой змест — яднанне ў імя Бацькаўшчыны.

**Гутарку вёў**
**У. ПАНАДА.**

*Гісторыя Айчыны — вайскоўцам*

*М. БІЧ*

# Беларусы: вызваленчы рух, першая рэвалюцыя (1863 — 1907 гг.)

(Заканчэнне. Пачатак у № 20, 21.)

Большасць народніцкіх гурткоў на Беларусі падтрымалі платформу «Чорнага перадзелу». Менск стаў адным з цэнтраў дзейнасці чорнаперадзельцаў у маштабах Расіі. У 1879 і 1880 гг. сюды двойчы прыязджаў лідэр «Чорнага перадзелу» Г. Пляханаў. Пры актыўным удзеле менскіх і гродзенскіх народнікаў у горадзе была наладжана цэнтральная падпольная друкарня партыі, дзе ў 1881 г. выдалі тры нумары газеты «Черный передел» і столькі ж — газеты для рабочых «Зерно», а таксама пракламацыі. У пачатку 1882 г. «Чорны перадзел» распаўся. Кіраўнікі яго выехалі за мяжу, адмовіліся ад народніцкіх поглядаў і восенню 1883 г. стварылі марксісцкую арганізацыю — групу «Вызваленне працы».

У канцы 1881 г. большасць прыхільнікаў «Чорнага перадзелу» на Беларусі перайшла на пазіцыі «Народнай волі», якая галоўныя свае сілы з восені 1879 г. засяродзіла на падрыхтоўцы забойства цара, разлічваючы, што гэта з'явіцца сігналам для народнага паўстання ў Расіі. 1 сакавіка 1881 г. Аляксандр II быў забіты бомбаю, кінутай І. Грынявіцкім, які і сам загінуў. Але новым царом стаў Аляксандр III, які пакончыў з ліберальнымі ваганнямі Аляксандра II і абвясціў адкрыта рэакцыйны курс унутранай палітыкі. Выканаўчы камітэт «Народнай волі» і многія яе правінцыяльныя арганізацыі неўзабаве былі разгромлены. Партыя ўступіла ў паласу глыбокага ідэйна-арганізацыйнага крызісу. Ля вытокаў сацыял-дэмакратычнага руху на Беларусі стаялі расійская група «Вызваленне працы» і польская партыя «Пралетарыят».

У верасні 1897 г. у Вільні правялі з'езд прадстаўнікі яўрэйскіх сацыял-дэмакратычных арганізацый Вільні, Менска, Віцебска, Беластока і Варшавы, на якім прынялі рашэнне аб утварэнні Усеагульнага яўрэйскага рабочага саюза ў Літве, Польшчы і Расіі — Бунда.

У пачатку сакавіка 1898 г. у Менску сабраўся з'езд дэлегатаў Пецярбургскага, Маскоўскага, Кіеўскага і Екацярынаслаўскага «Саюзаў барацьбы за вызваленне рабочага класа», кіеўскай «Рабочей газеты» і Бунда, дзе было прынята рашэнне аб аб'яднанні гэтых арганізацый у Расійскую сацыял-дэмакратычную рабочую партыю. Бунд, як і Саюзы барацьбы, уступаў у РСДРП на правах аўтаноміі ў мясцовых справах. Праграма і статут партыі з-за непадрыхтаванасці не абмяркоўваліся. Ідэйная платформа аб'яднання, дэмакратычныя і сацыялістычныя задачы рабочага руху ў Расіі ў агульнай форме асвятляліся ў «Маніфесце РСДРП», напісаным і выдадзеным пасля з'езда з санкцыі ЦК ў Бабруйскай друкарні Бунда. У ЦК РСДРП былі выбраны С. Радчанка, Б. Эйдэльман і А. Крэмер (лідэр Бунда).

У рабочым руху заходніх губерняў вядучыя пазіцыі ў канцы 90-х — пачатку 900-х гадоў заняў Бунд. Вясною 1901 г. ён абвясціў сябе выказнікам інтарэсаў яўрэйскага пралетарыяту ў Расіі і выставіў патрабаванне аб пераўтварэнні РСДРП у федэрацыю нацыянальных сацыял-дэмакратычных саюзаў і арганізацый. У 1900—1903 гг. бундаўскія камітэты і групы афарміліся і разгарнулі актыўную дзейнасць амаль ва ўсіх павятовых гарадах і многіх мястэчках Беларусі. Кіраўніцтва Бунда ў адносінах да «Іскры» займала насцярожаныя, а часам і варожыя пазіцыі, перашкаджала распаўсюджанню яе на Беларусі і ў Літве. Тым не менш з'яўленне асобных нумароў гэтай газеты ў 1901—1903 гг. зафіксавана ў 25 гарадах і мястэчках Беларусі.

Да лета 1903 г. большасць камітэтаў РСДРП у Расіі заявіла аб сваёй салідарнасці з платформай «Іскры». Гэта перадвызначыла перамогу накірунку газеты на II з'ездзе РСДРП, які адбыўся летам 1903 г. за мяжой. З'езд прыняў распрацаваную «Іскрой» праграму з тэзісам аб неабходнасці заваявання дыктатуры пралетарыяту. За гэтую праграму галасавала і дэлегацыя Бунда. Патрабаванне Бунда аб перабудове на федэратыўнай аснове было амаль аднадушна адхілена з'ездам. Таму бундаўцы заявілі аб сваім выхадзе са складу РСДРП і пакінулі з'езд.

Барацьба на з'ездзе завяршылася расколам іскраўцаў па арганізацыйным пытанні на бальшавікоў і меншавікоў. Бальшавікі на чале з Леніным выступалі за стварэнне строга законспіраванай і цэнтралізаванай партыі. Меншавікі, да якіх неўзабаве пасля з'езда далучыўся Г. Пляханаў, адвяргалі ленінскія арганізацыйныя прынцыпы, звязваючы з імі магчымасць устанаўлення ў партыі дыктатуры цэнтра і культу правадыра. Пасля з'езда паміж бальшавікамі і меншавікамі разгарэлася бескампрамісная барацьба за ўладу ў партыі.

У сувязі з выхадам Бунда з РСДРП прыхільнікі «Іскры» з дапамогай ЦК разгарнулі дзейнасць па стварэнні на Беларусі мясцовых арганізацый гэтай партыі. Нягледзячы на супраціўленне Бунда, у канцы 1903—пачатку 1904 г. яны з'явіліся ў Менску, Гомелі, Віцебску, Бабруйску, Магілёве, Полацку і шэрагу іншых гарадоў і мястэчак. Узначалілі іх Палескі і Паўночна-Заходні камітэты РСДРП, створаныя ў студзені-сакавіку 1904 г. Але вядучая роля ў мясцовым рабочым руху па-ранейшаму належала бундаўскім арганізацыям.

У 1902 г. арганізацыйна афармілася Партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў (эсэраў), якая выступала за знішчэнне самадзяржаўя і памешчыцкага землеўладання, устанаўленне ў Расіі федэратыўнай дэмакратычнай рэспублікі, пабудову сацыялістычнага ладу на аснове сацыялізацыі зямлі з ураўняльным землекарыстаннем і распаўсюджання кааперацыі. Выключнае значэнне ў барацьбе з царызмам эсэры надавалі індывідуальнаму палітычнаму тэрору. Гэтым займалася спецыяльная Баявая арганізацыя. У 1902—1904 гг. эсэраўскія арганізацыі ўзніклі ў Менску, Віцебску, Гомелі, Вільні, Беластоку, Смаленску і іншых гарадах заходніх губерняў. У 1904 г. яны аб'ядналіся ў сваю Паўночна-Заходнюю абласную арганізацыю.

Ажывіўся і беларускі нацыянальна-вызваленчы рух. У якасці яго ідэолага і палітычнага кіраўніка выступіла леванародніцкая Беларуская сацыялістычная грамада.

Першыя палітычныя выступленні рабочых на Беларусі адбыліся ў другой палове 90-х гадоў на хвалі ўздыму эканамічнай барацьбы. Спачатку гэта былі тайныя сходкі рабочых, арганізаваныя сацыял-дэмакратамі ў сувязі з 1 Мая, а таксама днём забойства нарадавольцамі Аляксандра II (1 сакавіка) і з іншай нагоды. Рэпрэсіі паліцыі супраць удзельнікаў руху ў канцы 90-х гадоў выклікалі некалькі вулічных дэманстрацый і маніфестацый. Былі праведзены і першыя палітычныя стачкі.

Пераходу рабочых да палітычнай барацьбы садзейнічалі эканамічны крызіс пачатку 900-х гадоў, агітацыя сацыял-дэмакратычных і народніцкіх арганізацый, а з пачатку 1904 г. — руска-японская вайна. У 1901—1904 гг. у палітычных стачках прынялі ўдзел каля 34 тыс. рабочых — значна больш, чым у эканамічных (20 тыс.). Тады ж рабочыя Беларусі правялі 59 вулічных дэманстрацый і 560 масовак і маніфестацый, якія, па прыблізных падліках, ахоплівалі да 100 тыс. чалавек. Найбольшы ўздым палітычных выступленняў назіраўся ў 1903—1904 гг. Дэманстрацыі і масоўкі звычайна праводзіліся пад аховай узброеных дружыннікаў.

Сялянскі рух, нягледзячы на абвастрэнне аграрнага пытання, заставаўся на невысокім узроўні і развіваўся ў тых жа формах, што і раней. У 1901—1904 гг. на Беларусі ўлічана 113 выступленняў (штогод у сярэднім 28).

У 1902—1904 гг. у беларускай вёсцы пачалася агітацыйная дзейнасць рэвалюцыйных арганізацый — РСДРП, Бунда, ПСР, ППС на Літве, БСГ. Адносна моцныя сувязі з сялянамі прыгарадных вёсак мелі сацыял-дэмакраты Віцебска, Копысі, Шклова, Гомеля. Аднак уплыў рабочага руху і рэвалюцыйнай агітацыі ў той час закрануў яшчэ нямногіх сялян. Сялянскі рух заставаўся стыхійным, раздробленым, не асветленым палітычнай і нацыянальнай свядомасцю.

Расстрэл 9 студзеня 1905 г. мірнай масавай маніфестацыі рабочых Пецярбурга выклікаў па ўсёй краіне магутную, нябачаную раней хвалю выступленняў пратэсту — стачак і вулічных дэманстрацый і маніфестацый рабочых, якая ахапіла і Беларусь. Студэнцкі рух салідарнасці з пецярбургскімі рабочымі праявіўся тут у 30 гарадах і мястэчках. Агульная колькасць стачачнікаў дасягала 34 тыс., што ў 2,7 раза перавышала адпаведны паказчык за ўвесь 1904 год. У лютым — сакавіку хваля палітычных выступленняў рэзка знізілася, але ў той жа час назіраўся ўздым эканамічных забастовак. Рэвалюцыйным рухам кіравалі мясцовыя арганізацыі РСДРП і Бунда, у некаторых выпадках — эсэраў, ППС на Літве і БСГ.

Новы ўздым палітычных выступленняў рабочых пачаўся ў красавіку 1905 г. у сувязі са святкаваннем 1 Мая.

Пад непасрэдным уздзеяннем рабочага руху вясной 1905 г. узнялася на барацьбу і вёска. Калі ў студзені—сакавіку на Беларусі адбылося 53, то ў красавіку—чэрвені — 237 сялянскіх выступленняў. Забастоўка сялян-падзёншчыкаў і парабкаў у пачатку чэрвеня 1905 г. ахапіла амаль усе маёнткі Навагрудскага павета. Кіравалі барацьбой выбраныя сялянскія камітэты. У канцы чэрвеня сялянскімі забастоўкамі з патрабаваннямі скарачэння рабочага дня, павелічэння платы і інш. былі ахоплены Ваўкавыскі і Гродзенскі паветы. У гэты час значна ўзмацнілася дзейнасць на вёсцы арганізацый РСДРП, ПСР і БСГ. Менавіта пры іх дапамозе пашыраліся новыя для вёскі формы руху — забастоўкі, палітычныя сходы і мітынгі.

Царызму ўдалося адбіць націск рэвалюцыі. Пэўную ролю адыграў і маніфест аб свабодзе. Паступова рэвалюцыйная хваля спала. У краіне ўстанавілася адносная раўнавага сіл рэвалюцыі і контррэвалюцыі. У такіх умовах паскорылася дыферэнцыяцыя грамадска-палітычных сіл, якая праявілася ва ўзнікненні розных палітычных партый, саюзаў, арганізацый. Усе яны больш-менш выразна размеркаваліся па трох лагерах. Да правага лагера адносіліся «Саюз рускага народа» (чарнасоценцы), «Саюз 17 кастрычніка» і іншыя арганізацыі, якія змагаліся за захаванне самадзяржаўя, памешчыцкага землеўладання, «адзінай і недзялімай імперыі» і г. д. У якасці лідэра буржуазна-ліберальнага цэнтра выступала Канстытуцыйна-дэмакратычная партыя. Палітычным ідэалам для яе з'яўлялася канстытуцыйная манархія англійскага ўзору. На Беларусі ліберальны цэнтр прадстаўлялі, у асноўным, яўрэйскія буржуазныя партыі, у тым ліку сіяністы. У дэмакратычны лагер уваходзілі агульнарасійскія і нацыянальныя партыі сацыял-дэмакратычнага і народніцкага накірунку.

Пад уплывам кастрычніцкай палітычнай стачкі рабочых і служачых у канцы 1905 г. небывалы размах набыў рэвалюцыйны рух у вёсцы і ў арміі. Колькасць сялянскіх выступленняў у лістападзе вырасла да 154, а ў снежні — да 286. У Горацкім, Клімавіцкім і Чэрыкаўскім паветах Магілёўскай губерні сялянскі рух пачаў перарастаць ва ўзброенае паўстанне. У вайсковых гарнізонах на Беларусі, асабліва ў Гродне, шырокі рэзананс атрымалі паўстанні матросаў у Кранштаце і Севастопалі. У Бабруйскай крэпасці ў канцы лістапада ўспыхнула паўстанне дысцыплінарнага батальёна (900 чалавек). У хваляваннях у Брэсцкай крэпасці ўдзельнічала 7 рот. На Беларусі снежаньская стачка ахапіла 17, а з улікам дэманстрацый, мітынгаў і сутыкненняў з паліцыяй і войскам,— 28 гарадоў і мястэчак. У стачках удзельнічалі каля 44 тыс. рабочых. Размах руху па колькасці населеных пунктаў у параўнанні з кастрычнікам звузіўся ў 2 разы. Пры гэтым рэзка скарацілася колькасць вулічных дэманстрацый і мітынгаў. Па напалу і напружанасці барацьбы сітуацыя ў некаторых гарадах (Гомель, Баранавічы) была блізкай да ўзброенага паўстання. Аднак мясцовыя рэвалюцыйныя арганізацыі, відаць, чакалі зыходу барацьбы ў цэнтры краіны. Прамых заклікаў да ўзброенага паўстання і спробаў арганізацыі яго на Беларусі не было.

Пачатак дзейнасці Дзяржаўнай думы супаў з новым уздымам рэвалюцыйнага руху. На Беларусі ён, у асноўным, вызначаўся першамайскімі стачкамі рабочых, праведзенымі ў 40 населеных пунктах, а таксама выступленнямі сялян. Найбольшае распаўсюджанне ў вёсцы ў гэты час набылі забастоўкі сялян-падзёншчыкаў і сельскагаспадарчых рабочых. Яны складалі 37 працэнтаў усіх выступленняў. Ажыўленне рэвалюцыйнага руху назіралася ў гэты час і ў войску.

Не знаходзячы падтрымкі ў пераважнай большасці дэпутатаў, Мікалай II указам ад 9 ліпеня 1906 г. распусціў яе і назначыў новыя выбары.

Палітычныя выступленні рабочых, найперш дэманстрацыі і мітынгі, сталі практычна немагчымымі, бо ўрад перайшоў да адкрытага тэрору. Колькасць палітычных стачачнікаў на Беларусі ў ліпені—снежні 1906 г. складала не больш за 1,5 тыс. У эканамічных стачках у гэты час удзельнічалі каля 9 тыс. рабочых. Павялічылася ўдзельная вага абарончых стачак, паколькі прадпрымальнікі імкнуліся адняць ад рабочых заваёвы папярэдняга часу. У такіх умовах вырасла значэнне прафсаюзаў, актывізавалася іх дзейнасць.

У канцы 1906—пачатку 1907 г., у час глыбокага спаду рэвалюцыі і панавання ваеннага тэрору, адбыліся выбары ў II Дзяржаўную думу.

Вясною 1907 г. у перыяд дзейнасці II Дзяржаўнай думы ў Расіі зноў назіраўся адносны ўздым рэвалюцыйнага руху. На Беларусі, як і ў 1906 г., ён праявіўся ў першамайскіх стачках рабочых, якія былі праведзены ў 21 населеным пункце і ахапілі каля 25 тыс. рабочых. У цэлым жа для ўрада было відавочна, што рэвалюцыя на зыходзе. На вопыце дзейнасці I і II Дзяржаўных дум ён пераканаўся ў непрыдатнасці выбарчага закона ад 11 снежня 1905 г. Разагнаўшы I Думу, урад атрымаў II Думу, значна больш рэвалюцыйную, чым першая. Таму было вырашана не толькі распусціць яе, але і змяніць выбарчы закон. І царызм пайшоў на гэты крок. Адпаведны указ, выдадзены 3 чэрвеня 1907 г., азначаў перамогу контррэвалюцыі і рэакцыі.

**Матэрыял скарочаны; тэкст да друку падрыхтаваў Мар'ян ВІЖ.**

# Вучымся!

Мікалай КРЫЎКО

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

ПАЖАДАНА і ПАЖАДАНА Б (безасабовае ў знач. выказніка; ужыв., калі трэба ўказаць, што таго ці іншага дзеяння чакаюць або жадаюць) *Пажадана асобныя мясціны твора вывучыць напамяць*, ДОБРА (БЫЛО) Б *Задумайся Сцёпка. А добра было б яшчэ павучыцца!* (Колас), *Дайно я з табою,.. не бачыўся. Было б добра пабачыцца* (Чорны), ХАЦЕЛАСЯ Б *Хацелася б пабачыць, Як тут сягоння зранку Бурліць чыгун гарачы* (Аўрамчык), НЯДРЭННА (Б), НЯДРЭННА (БЫЛО Б) разм. *Старэйшы ён [Пусташоў] ад вас — нядрэнна б і ўступіць* (Корбан), НЯКЕПСКА (Б), НЯКЕПСКА (БЫЛО Б) разм. *Было б таксама някепска, каб я быў хаця б айсяным каласком* (Бядуля), НЯБЛАГА (Б), НЯБЛАГА (БЫЛО Б) разм. *Максім разумеў, што сапраўды няблага б увесці на ферме механічнае даенне кароў* (Дайліда), НЯШКОДНА (Б), НЯШКОДНА (БЫЛО Б) разм. *Тут было б зусім няшкодна Даць на тры жаўны прынамсі Аднаго рахункавода* (Лужанін), НЕ ШКОДЗІЦЬ разм. *Пра Петрушы хоць мімаходам сказаць не шкодзіць колькі слоў* (Колас), НЕ ШКОДЗІЛА Б разм. *Не шкодзіла б па модзе новай Пашыць сукенку адмыслова* (Аўрамчык), НЕ МЯШАЕ разм. *Ужо не мяшае і перакусіць*, НЕ МЯШАЛА Б разм. *Ядзя кіўнула на Янушка.— Гэта таму не мяшала б даць добрую праборку, хто кожны дзень п'яны* (Дайліда).— Пар. Хочацца.

ПАЖАНІЦЦА (узяць шлюб — пра мужчыну і жанчыну) *Пяць год таму назад сышліся... [Ірына і Ігнась], пажаніліся* (Лынькоў), СЫСЦІСЯ [*Бабка:*]

*— Я ж у Лукерчыка жонкай была — не служанкай. Праўда,... не першай — сышліся мы ў пяцідзесятым годзе* (Вышынскі), ПАБРАЦЦА разм. *Гэтую бярозу пасадзіў Андрэй, яе [Алены] чалавек, калі яны пабраліся* (Мележ).

ПАЖАРЫШЧА (месца, дзе быў пажар; тое, што засталося пасля пажару). *А завіруха гудзела, намятала гурбы, прыкрывала снегам чорныя галавешкі пажарышча* (Лынькоў), ПАПЯЛІШЧА *Антось стаяў на папялішчы свайго гнязда і думаў, што вайна адабрала ад яго і сям'ю і родны дом* (Чарнышэвіч) ПОПЕЛІШЧА дыялектнае *Яны ўтраіх перасядзелі ў блізкім лесавым хутарку фронт, прасядзелі пад руінамі, на попелішчы* (Чорны).

ПАЖЫВА (здабыча, нажыва; тое, што служыць для харчавання) *Асабліва ўдала Лукаш умеў паляваць на каўбасы або сыры. Агледзеўшы пажыву, ён... адломліваў кавалак як пад'есці і ўцякаў* (Лобан), ПАЖЫТАК [Адам:] — *Сюды, проста на кашару, і перліся, нячысцікі. Мабыць, [ваўкі] нюхам вынюхалі, што тут пажытак добры* (Сабаленка), СПАЖЫВА *Ліса шукае сабе спажывы пад дрэвамі і кустамі* (В. Вольскі), СПАЖЫТАК *Тры сыны былі ў мамы, тры сыны ў таты. Разумелі ўжо і самі, што пара шукаць занятак. Бо адкуль бацькі старыя будуць браць для іх спажытак?* (Дубоўка).

ПАЖЫВІЦЦА размоўнае (чым; атрымаць з чаго-н. для сябе карысць, выгаду, скарыстаць што-н, дзеля сваіх інтарэсаў) *Ён [Тварыцкі] сам мала верыў, што можна што-небудзь знайсці тут, пажывіцца на гэтай справе, зробленай чужымі рукамі* (Чорны),

ПАКАРЫСТАЦЦА *Я ведаў, што Майбарада пакарыстаецца нашай паездкай, каб нарэшце выказаць усе крыўды* (Скрыган), НАГРЭЦЬ (або ПАГРЭЦЬ) РУКІ на чым *Ёсць на чым рукі пагрэць, калі сумленне чалавек згубіў* (Ермаловіч).

ПАЗАДДЗЕ (адходы, рэшткі пры малацьбе або веянні) *На таку... звонка ўрассыпную скачуць зярняты, асядае мякіна, ападае пазаддзе* (Арочка), ПАЗАДКІ *Бабка насыпала ў маленькі мяшэчак, пашыты з старога рукава, крыху ячменных пазадкаў* (Кулакоўскі), АЗАДДЗЕ.

ПАЗАШЛЮБНЫ (народжаны ад бацькоў, якія не бралі шлюб) *Маці пазашлюбнага дзіцяці атрымлівае ад дзяржавы дапамогу* («*Маладосць*»), НЕЗАКОННАНАРОДЖАНЫ устарэлае *Манро, — гаворыцца ў нарысе, — дзіця кахання, незаконнанароджанае* (Новікаў), НЕЗАКОННЫ разм. *Незаконнае дзіця*, ПАБОЧНЫ *Перад судом... [Камароўскі] трымаўся з годнасцю пабочнага сына аднаго са шматлікіх графаў Тышкевічаў* (Машара), НАГУЛЯНЫ разм., пагардлівае *Нагулянае дзіця*.

ПАЗБАВІЦЬ *чаго* (пакінуць без чаго-н.) *Захоп Свянцян пазбавіў белапалякаў магчымасці затрымаць наступленне* (Машара). *Пазбавіць волі*, АДАБРАЦЬ што ў каго *Вораг, якога мы пазналі ў верасні трыццаць дзевятага года, цяпер захацеў адабраць у нас волю і шчасце* (Брыль). — Незакончанае трыванне: **Пазбаўляць, адбіраць.**

ПАЗБЯГАЦЬ (каго-чаго; наўмысна трымацца ўбаку ад каго-, чаго-н.) *Мы пазбягалі дарог, ішлі па компасе проста на поўнач* (Няхай), УНІКАЦЬ *каго-чаго Кінуўшы мужа, Марына Паўлаўна як магла старалася ўнікаць з ім сустрэчы* (Зарэцкі), УХІЛЯЦЦА *ад каго-чаго* або *чаго «Я не твая!» — вырывалася Паша. А потым доўга ўхілялася сустрэч з ім* (Лось), ЧУЖАЦЦА *каго Нейкі час... [муж і жонка Раманюкі] жылі, як два чужыя чалавекі, выпадкова з'яднаныя гешэфтам: называлі адзін аднаго на «вы», чужаліся* (Карпюк), ЦУРАЦЦА *каго-чаго Няважна, дзе чалавек аблюбуе сабе прыстанішча — у вёсцы ці ў горадзе, важна тое, каб свайго люду не цурайся* (М. Ткачоў).

*Пры кансультацыі заслужанага работніка народнай адукацыі Беларусі, доктара філалагічных навук, прафесара Леаніда Іванавіча БУРАКА*

УДАКЛАДНІМ

## Знакі прыпынку пры устаўных словах, словазлучэннях і сказах

1. Пры аслабленай сувязі са зместам сказа і працяглай паўзе на стыку з яго членамі ўстаўныя словы і словазлучэнні выдзяляюцца дужкамі: *Мільён купін з каржакаватымі (нязграбнымі) хвойкамі рассыпаліся па балоце* (Якуб Колас). *Дубы (лесавыя пасланцы ў полі) застылі ў перадранішняй дрымоце* (Кузьма Чорны). *Выган заўсёды служыў месцам зборышч (можа ад часоў народнага веча)* (Змітрок Бядуля).

Устаўныя словы і словазлучэнні аддзяляюцца або выдзяляюцца працяжнікам, калі іх сувязь са зместам сказа менш аслабленая і існуе карацейшая паўза на стыку з яго членамі: *Над лугам зазвінела — той самаю жніўнай песняй — жалейка* (Я. Брыль). *Па перакідным мосціку — калідоры на вышыні другога-трэцяга паверхаў — мы перайшлі з парахода ў будынак вакзала* (М. Лынькоў).

2. Устаўныя сказы выдзяляюцца:

коскамі, калі маюць неразвітую або маларазвітую будову, лагічна не вылучаюцца, цесна звязаны з асноўным зместам сказа і суправаджаюцца непрацяглымі паўзамі на стыку з яго членамі: *За яе, была часіна, ледзь я не загінуў* (П. Броўка). *Людзі, а іх тут было багата, проста за жываты хапаліся ад смеху* (М. Лынькоў).

працяжнікамі, калі маюць маларазвітую або развітую будову, лагічна вылучаюцца, слабей звязаны з асноўным зместам сказа і суправаджаюцца працяглымі паўзамі на стыку з яго членамі: *Над апусцелым полем — праз вокны відаць было — неба ўзняло некалькі малых і чырванаватых хмар* (Кузьма Чорны). *Неўзабаве — на дварэ ўжо быў вечар — пачалі сыходзіцца суседзі* (І. Мележ). *Каля Нёмана — а ён быў тут зусім блізка — пачулася Якубава песня* (Якуб Колас). *Напужаныя авечкі адна за адной — быццам іх за шкірку хто выкідаў з хлеўчыка — на двор павыскоквалі* (І. Грамовіч).

коскамі з працяжнікамі, калі маюць развітую будову, вылучаюцца лагічна, слаба звязаны з асноўным зместам і суправаджаюцца больш працяглымі паўзамі на стыку з яго членамі: *Змрокам купальскім,— год дакладна не ведаем мы,— кветку шчасця свайго ў лесе панскім бачыў ён, як вяртаўся з карчмы* (А. Куляшоў). *Вогнішча, — а яно далёка было відаць,— начлежнікі раскладалі кожны вечар* (Змітрок Бядуля).

дужкамі, калі маюць самую развітую будову, лагічна не вылучаюцца, надзвычай слаба звязаны з асноўным зместам сказа і суправаджаюцца асабліва працяглымі паўзамі на стыку з яго членамі: *Бараноўскія (тры хлопцы як дубы) былі дома* (І. Гурскі). *На зямлі ляжаў кавалачак паперы, на якім друкаваным ладам (каб не пазнаць было рукі) штосьці напісана* (Кузьма Чорны).

3. Калі ўстаўныя словы, словазлучэнні і сказы суправаджаюцца пытальнай або клічнай інтанацыяй, тады пасля іх (непасрэдна перад працяжнікам ці дужкай) ставіцца пытальнік або клічнік: *Міхал — навошта ўжо таіцца? — любіў-такі павесяліцца* (Якуб Колас). *З шарачка — дзе ж корту таго ўзяць? — з кантамі мне галіфэ пашыла маці* (В. Вітка). *Змітрок (добры ён хлопец!) чытае розную літаратуру* (В. Каваль). *Мікола — дзецям бацька! — сам як малое дзіця* (М. Гарэцкі). *Шкода (вось якая рэч!) і хацінкі гэтае і неба* (А. Куляшоў).

*(Працяг будзе).*

*Хачу ведаць*

## З кім я хаджу ў школу?

*Майго сябра завуць Радаслаў Русін. Але як мне сказаць правільна: я хаджу ў школу з Русіным ці з Русінам?*

**Андрэй КАЗАКЕВІЧ, вучань з Магілёва.**

**На гэтае пытанне адказвае Аляксей Пяткевіч, прафесар Гарадзенскага універсітэта.**

### Нашы прозвішчы

Сёння, калі мы сур'ёзна задумваемся над усталяваннем нормаў беларускага правапісу і хочам сапраўды адрадзіць іх нацыянальныя асновы, варта прыгледзецца да напісання беларускіх прозвішчаў, да памылак у гэтай галіне беларусазнаўства. Я не гавару пра некаторыя незразумелыя выключэнні з правіла, якія робяцца, напрыклад, для прозвішчаў Пестрак ці Юргелевіч (так падаюць прозвішчы пісьменніка і мовазнаўца ЭЛІМБел і некаторыя іншыя выданні), калі яўна парушаецца закон пераходу **е** ў **я** ў першым пераднаціскным складзе. Такіх выключэнняў быць не можа (тут не павінна ўлічвацца воля носьбіта прозвішча).

Але хачу звярнуць увагу на іншае — на адзін тып нашага прозвішча, які не павінен падначальвацца агульнапрынятаму правілу скланення і зменам, што залежаць ад носьбіта таго ці другога полу. Маю на ўвазе наступныя прозвішчы: Літвін, Русін, Гуштын, Чыгрын, Логвін, Гурын, Гірын, Чыквін, Дварчанін, Слабаджанін, Баярын, Татарын (здаецца, да гэтай групы трэба аднесці яшчэ прозвішчы Рубін, Гавін і некаторыя іншыя). Яны сустракаюцца пераважна ў заходніх і цэнтральных рэгіёнах Беларусі, тут іх гістарычныя карані. Але скланяюць іх (у друку, у афіцыйных дакументах) так, як гэта прынята ў дачыненні да расійскіх прозвішчаў тыпу Пушкін, Бунін і тых, што пашыраныя ва ўсходніх рэгіёнах Беларусі (Шамякін, Лужанін). У прыватнасці, у творным склоне ім надаюць канчатак **-ым**. Але памянёныя вышэй прозвішчы ў адпаведнасці з даўняю традыцыяю нацыянальных найменняў скланяюцца як назоўнікі мужчынскага роду першага скланення (калі абазначаюць асобу мужчынскага полу) і ў творным склоне маюць канчатак **-ам**. Гэта значыць, павінны мець форму Літвінам, Русінам, Татарынам, гэтаксама, як беларусам, шваграм, капітанам. Калі ж гэтыя прозвішчы адносяцца да асоб жаночага полу, то ўвогуле не павінны скланяцца. І ў назоўным склоне форма прозвішча таксама застаецца нязменнаю (напрыклад, Марыя Русін, Наталя Татарын).

Такім чынам, прозвішчы гэтага тыпу досыць спецыфічныя, і формы іх трэба захаваць, калі мы хочам зберагчы годнасць нашае нацыянальнае культуры. Ёсць тут і прагматычны інтарэс: хутка будуць у нас новыя пашпарты, і не ўсё роўна, як запішуць у гэтых асноўных дакументах Беларусі нашы імёны і прозвішчы. Дарэчы, з іх правапісам нямала і іншых складаных праблем, але чамусьці апошнім часам пра гэта ніяк не выказваецца наш друк.

**Аляксей ПЯТКЕВІЧ.**

## Язык як перац

Доўгі, як вуліца.
Доўгі, як жэрдка.
Доўгі, як пятроўскі дзень.
Дробныя, як мак.
Дроў, як у лесе.
Дружна, як жабы на дождж (закракталі).
Дружны, як рэха.
Дрыжыць, як авечы хвост.
Дрыжыць, як асіна (як лісце асінавае).
Дрыжыць, як дрыгва.
Дрыжыць, як у трасцы (як у ліхаманцы).
Дрэмлюць, як каровы на стойле.
Дудукае, як ліхая свякроўка.
Дужы, як асілак.
Дужы, як зубр.
Дужы, як мядзведзь.
Дужы, як тур.
Дурная, як сініца.
Дурная, як цяля.
Дурны, як авечка.
Дурны, як бот.
Дурны, як варона (як варона загуменная).
Дурны, як даўбешка (як доўбня).
Дурны, як пень.




*Рубрыку вядзе Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

**Антоніо МАЧАДА (1875—1930) — адзін з самых бліскучых прадстаўнікоў новага «залатога веку» ў іспанскай паэзіі.**

*Антоніо МАЧАДА*

Ноч на ўзбярэжжы Санлукар,
Мора заснула спакойна.
Чую я, нехта спявае:
— Покуль не ўзыдзе поўня.

Покуль не ўзыдзе поўня,
Даль асвятліўшы глыбока,
Мушу табе я два слоўцы
Вымавіць з вока на вока.

Дрэмле салодка Санлукар,
Лёгкая летняя змора.
Чую я спеў адзінокі,
Чую ля горкага мора.

Плаўна плыве ён, павольна:
— Нас тут з табою не ўбачаць,
Покуль не ўзыдзе поўня.

## Маладая Іспанія

Быў жа час і падману, і п'янага шалу,
Не ставала нядужай Іспаніі сілы
Залячыць свае раны.
Пад шум карнавалу
Кандыбала жабрачкай яна да магілы.

Прадчуваннем нядобрым аддадзена й здрадзе
Ты была ў тыя дні нашай ганьбы і гора.
Ад таго наслання мы нямелі, бы ў чадзе,
Заціхала загнанае бурамі мора.

Мы старую галеру пакінулі: далі
Нас паклікалі. Плысці яшчэ нам ці мала.
Карабель залаты ў нас, і стромыя хвалі
Абмывалі нам ветразі й мачты, бывала.

Ды паўстала праз мары і мроіва ночы,
Мары веку былога, што чэзнуць без славы,
Зззяне золку — і нашы трывожныя вочы
У ім убачылі праўды свяшчэннай праявы.

Толькі кожны па-свойму з дарогі збіваўся
І, ад пыхі шалеючы, бы ад дурману,
У даспехах бліш частых сваіх выхваляўся:
«Сёння блага, ды заўтра вялікім я стану».

Вось ён, сённяшні дзень, што быў прышлым учора.
Зноў Іспанія ў блазенскім яркім убранні,
У рыззі карнавальскім, зноў п'яная з гора,
Зноў няшчасная, бедная, рана на ране.

Маладосць, паглядзі: вунь заблiскала мэта.
Не марудзь, калі ўбачыш дарогу да выйсця —
Ты ж свяшчэнным святлом абуджэння сагрэта,
Што за ўсе дыяменты ясней і празрысцей.

*Пераклад з іспанскай Аляксея ЗАРЫЦКАГА.*

---

*Конкурсы*

# Усе мы родам з сям'і

Азірнуцца вакол сябе і задумацца над карэннымі асновамі жыцця — вось першы, можа, нават адзіны сродак зберагчы сябе ў наш цяжкі і трывожны час. А гэта наўрад ці магчыма, калі не трымацца надзейнай цвярдыні — сваёй сям'і, свайго ачага, свайго Дома.

Задумацца аб тым, што ж гэта такое: Дом у свядомасці чалавека, чым ён будуецца і як, чым крэпкі і добраўпарадкаваны.

Менавіта над гэтымі пытаннямі разважалі вучні 5—11 класаў нашага раёна, якія ўдзельнічалі ў раённым конкурсе «Мая сям'я і я»... Конкурс быў праведзены з нагоды абвяшчэння 1994 года Міжнародным годам сям'і (Рэзалюцыя ад 8.01.89 г., № 44-82 Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый).

Чалавечае супольніцтва вырашыла азірнуцца, паглядзець, зразумець свае вытокі, свой радавод, саваё прызначэнне. Гэтым жа мэтам служыў і праведзены ў раёне конкурс пісьмовых работ.

Усе мы родам з сям'і, двух яе вялікіх жыццесцвярджальных крылаў — Бацькі і Маці — гэта асноўная думка ўсіх работ.

Два пачаткі, а колькі лёсаў...

Тэматыка пісьмовых работ, прысвечаных МГС, разнастайная: «Самае дарагое ў сэрцы і памяці», «У матчынай хаце», «Што я ведаю пра сваіх бацькоў, дзядоў» (мой радавод), «Успаміны пра дзяцінства», «Рака маленства», «Наведвайце бацькоў, пакуль яны жывыя» і інш.

Многа цікавых работ было створана школьнікамі раёна. Лепшымі прызнаны работы Цяслюк Дзіяны (6 клас Палескай СШ) па тэме «Самае дарагое ў сэрцы і жыцці» (настаўніца Жукоўская З. Р.), Дайнека Наталлі (11 клас Палескай СШ) па тэме «Дарагая мая хатка, дзе радзіла мяне матка» (настаўніца Дудко Л. Ал.), вучаніцы 11 «А» класа Парыцкай СШ Галаўко Вольгі (настаўніца Стражэвіч Г. М.) па тэме «Наведвайце бацькоў, пакуль яны жывыя». Прыемна, што амаль усе работы выканаціны на роднай мове.

У конкурсе прынялі ўдзел і настаўнікі раёна. Так, у Печышчанскай СШ была праведзена канферэнцыя да Міжнароднага года сям'і пад дэвізам «Будзем жыць і любіць». Цікавым і змястоўным было выступленне настаўніцы Касых Галіны Пятроўны.

«Аналізуючы вытокі абыякавасці нашчадкаў да старых, хворых і пакрыўджаных, сваіх продкаў, сацыёлагі канстатуюць менавіта наяўнасць «эгаістычнага сіндрому» ў большасці сённяшніх школьнікаў. Трывожыць і тое, — гаворыць настаўніца,— што некаторыя лічаць такія адносіны нармальнымі і нават не імкнуцца іх выпраўляць. І, канешне, у гэтым вінавата сям'я. Сям'я — першы скульптар, які фарміруе мяккую, як воск, душу — розум, волю, характар дзіцяці. Ад бацькоў, усёй сям'і і нас, настаўнікаў, выхавацеляў, залежыць, якім вырасце дзіця, якім стане чалавекам, як складзецца яго лёс.

Любоў стварае чалавека, чалавек любоўю творыць прыгажосць. Як хораша ўсім у такім свеце...

Пачнём з Любві! Другога выйсця для выжывання няма — ні ў сям'і, ні ў дзяцей, ні ў грамадстве»...

**В. НОВІК, метадыст Светлагорскага ГАА.**

---

**ЧЫТАЛІ?**

# Зварот да нацыянальнай ідэі

Прыйшоў да чытача першы ў сёлетнім годзе нумар «Беларускага гістарычнага часопіса». Ужо толькі змест чарговага штоквартальніка запэўнівае, што нумар скіраваны на раскрыццё асобных этапаў нацыянальна-вызваленчай барацьбы беларускага народа. Блокам вылучаюцца публікацыі Анатоля Грыцкевіча, Аляксандра Гужалоўскага, Яўгена Анішчанкі, Яна Левандоўскага. Даследчыкі расказваюць пра ход паўстання 1794 года, прыадчыняюць невядомыя старонкі жыццяпісу яго ўдзельнікаў і кіраўнікоў.

Доктар гістарычных навук А. Грыцкевіч у артыкуле «Паўстанне 1794 г.: перадумовы, ход і вынікі», у прыватнасці, зазначае: «Вызваленчае паўстанне 1794 г. мела вялікае значэнне ў гісторыі Беларусі. Гэта было нацыянальнае паўстанне, накіраванае на ўзнаўленне незалежнасці Беларуска-Літоўскай дзяржавы. Яно мела самастойны характар, але каардынавалася з польскім паўстаннем і стратэгічна падпарадкоўвалася адзінаму камандаванню ў Варшаве ў асобе начальніка паўстання Т. Касцюшкі».

Увагу чытача прыцягне і публікацыя Гужалоўскага «Войска ВКЛ: апошнія старонкі гісторыі». Гэты невялікі гістарычны нарыс праліваe святло на арганізацыю войска Вялікага княства і Кароны, знаёміць з шэрагам тагачасных военачальнікаў.

Апошнія гады жыцця кіраўніка паўстання 1794 года асветлены ў артыкуле польскага даследчыка Яна Левандоўскага «Касцюшка ў Швейцарыі. Культ героя ў XIX і XX стст.» Публікацыя аздоблена цікавымі ілюстрацыямі. Але нельга без суму чытаць заключныя радкі артыкула: «Два стагоддзі існуе памяць пра Т. Касцюшку. Імем яго названы вуліцы, плошчы, школы і населеныя пункты ў розных частках свету. Асоба Касцюшкі і яго агульначалавечыя вартасці, якія ён увасабляў,— любоў да свабоды, супрацьстаянне насіллю, барацьба за чалавечую годнасць,— былі прызнаны яшчэ пры яго жыцці. Трывала ўпісаліся яны ў польскія і швейцарскія патрыятычныя традыцыі». А вось якім ушанаваннем памяці Т. Касцюшкі, як і ўвогуле ўдзельнікаў паўстання 1794 г., можа сёння пахваліцца Беларусь? Занадта сціплым атрымаецца адказ.

Багатая каляровая ўклейка змешчана ў першым нумары часопіса. На 23 ілюстрацыях прадстаўлены ўзоры формы ваяроў Вялікага Княства Літоўскага.

Пакутлівы лёс Беларусі непарыўна звязаны са шматлікімі войнамі. Таму, зразумела, і гісторыя нашай Айчыны — ледзь ці не суцэльная ваенная гісторыя. Вось і ў згаданым нумары часопіса большасць публікацый звязана з ваеннымі перыпетыямі. Аляксей Літвін пачынае друкаваць сваё даследаванне «Армія Краёва на Беларусі: да праблемы вывучэння». Пытанне, за разгляд якога ўзяўся даследчык, мае сваю няпростую гісторыю.

Цікавыя публікацыі змешчаны і пад рубрыкай «З гісторыі палітычных партый», «Рэпрэсіі». Апошняя прадстаўляе артыкул Аляксандра Хацкевіча «Арышты і дэпартацыі ў заходніх абласцях Беларусі (1939—1941 гг.)». Праўда, на нашу думку, публікацыя, прысвечаная рэпрэсіям (як, дарэчы, і шэраг іншых матэрыялаў першага нумара), падштурхоўвае да наступнай высновы. Артыкулу ўласціва празмерна акадэмічнае, сухое выкладанне матэрыялу, што, безумоўна, не спрые пашырэнню чытацкага інтарэсу.

Шэраг матэрыялаў нумара аб'яднаны ў раздзеле «Віленшчына».

Не прамінеце таксама артыкулы Эдварда Зайкоўскага «Крывіцкая Вільня», «З гісторыі Літоўскай Метрыкі», Сяргея Таляронка «Віленская асацыяцыя 1796—1797 гг.», Міколы Іванова «Праблема прыналежнасці Вільні і беларускае нацыянальнае пытанне ў 1939 г.».

**Ганна ЦІТАЎКА.**

---

*Канферэнцыі*

# «Слова. Гісторыя. Незалежнасць»

Ужо 4 гады існуе ліцэй пры Беларускім гуманітарным адукацыйна-культурным Цэнтры. Амаль кожны год у нас адбываюцца цікавыя знаёмствы, сустрэчы не толькі з людзьмі нашай краіны, але і з сябрамі з замежжа — Польшчы, Францыі, Германіі.

А нядаўна адбылася Другая вучнёўская навукова-даследчая канферэнцыя «Слова. Гісторыя. Незалежнасць». У ёй бралі ўдзел вучні IX—XI класаў менскіх школ, ліцэяў, гімназій, філіялаў Цэнтра з Гародні, Магілёва, Гомеля, Койданава (Дзяржынска). Ахвотнікі ўдзельнічалі ў працы трох секцый: гістарычнай, моваэнаўчай, секцыі гісторыі літаратуры і літаратуразнаўства.

Разглядаліся праблемы сучаснага правапісу беларускай мовы, згадвалі рэпрэсаваную беларускую лацінку, «тарашкевіцу». Вучні выступалі з цікавымі даследаваннямі, прысвечанымі БНР, паўстанню Т. Касцюшкі, роду Радзівілаў, вайне з Напалеонам і г. д.

Камісія, у склад якой увайшлі выкладчыкі ліцэя (Л. Баршчэўскі, В. Вячорка), гісторыкі (М. Ермаловіч), правяла конкурсны адбор дакладаў.

Пераможцы, а імі былі: у секцыі гісторыі — Буранка Аляксей (СШ № 67, кл. 9 «Б»), у секцыі мовазнаўства — Русіновіч Алена (ліцэй БГАКЦ, гр. № 21), у секцыі па літаратуразнаўстве — Саматыя Вадзім (лінгва-гуманітарны каледж № 24), узнагароджаны дыпломамі.

Астатнія цікавыя вучнёўскія працы адзначаны прызамі і падарункамі.

**Вераніка ПАНІЗЬНІК, навучэнка 4-га курса ліцэя БГАКЦ.**

